Праваабарончы
# Веснік
*студзень 2012*
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

## «РЭЖЫМУ ЎЖО МАЛА ПАСАДЗІЦЬ ЛЮДЗЕЙ У ТУРМУ, ІХ ХОЧУЦЬ ЗНІШЧЫЦЬ»

**Экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч, які адбывае шасцігадовы тэрмін зняволення за падзеі 19 снежня 2010 г. ў шклоўскай калоніі, 12 студзеня 2012 г. асуджаны судом Шклоўскага раёна (суддзя Віталь Волкаў) на тры гады турмы закрытага тыпу. Цяпер палітык будзе адбываць пакаранне ў камеры, яму значна узмацняецца рэжым: не дазваляюцца спатканні са сваякамі, тэлефанаванні, забараняюцца пасылкі і г.д.**

Тое, што рэжым Мікалаю Статкевічу зменены на больш жорсткі, азначае, што з шасці гадоў пазбаўлення волі тры гады палітвязень правядзе ва ўмовах турмы. Як адзначыў у інтэрв'ю Радыё Свабода праваабаронца Валянцін Стэфановіч, гэта зроблена фармальна нібыта за невыкананне ўмоваў рэжыму адбыцця пакарання ў калоніі.

«Калі глядзець сукупна на тое, што зараз адбываецца з палітвязнямі, мы расцэньваем выключна як ціск уладаў на вязняў дзеля іх як мага большай ізаляцыі і пагаршэння ўмоваў адбыцця пакарання. Мы вельмі занепакоеныя тым, што ўлады могуць ужыць 411-ы крымінальны артыкул супраць палітвязняў. Калі людзей яшчэ прыцягнуць да крымінальнай адказнасці за тое, што яны нібыта сістэматычна не выконваюць патрабаванні адміністрацыі, за нязначныя парушэнні рэжыму. І гэта ўжо дадае магчымасці дадаткова асудзіць людзей. Такое ў Беларусі даволі шырока практыкуецца».

Паводле В.Стэфановіча, цяперашні вырак Статкевічу трэба разглядаць у комплексе. Ён згадвае палітвязня Мікалая Аўтуховіча, якога таксама чакае суд па змене рэжыму на больш жорсткі, на ўтрыманне ў турме.

«Ціск на яго рэзка ўзмацніўся. Тое, што адбываецца з Саннікавым, Дашкевічам, Бандарэнкам, паказвае, што рэжыму ўжо мала пасадзіць людзей у турму. Рэжыму іх трэба знішчыць. Не фізічна, але маральна, бо гэта вельмі моцны ціск. Гэтак, Бандарэнка перадаў, што калі ціск будзе працягвацца, то ён скончыць жыццё самагубствам. Гэта сведчыць, што гэта вельмі сур'ёзна. На жаль, магчымасці неяк дапамагчы вязням вельмі абмежаваныя. Улады, напрыклад, нахабна не дапускаюць адвакатаў да Саннікава. Гэта проста карт-бланш на ўседазволенасць».

## МІКАЛАЯ СТАТКЕВІЧА ПЕРАВОДЗЯЦЬ З КАЛОНІІ Ў ТУРМУ



**Былы кандыдат у прэзідэнты, паводле рашэння суда Шклоўскага раёна ад 12 снежня, асуджаны на тры гады турмы закрытага тыпу. Цяпер палітык будзе адбываць пакаранне ў камеры.**

Фармальнай прычынай для асуджэння Статкевіча стала тое, што ён знаходзіўся без біркі з нумарам зняволенага на адзенні, а таксама не ўказаў у спісе асабістых рэчаў насоўкі.

Гэта, на думку кіраўніцтва шклоўскай калоніі, сведчыць аб тым, што палітык «не стаў на шлях выпраўлення», «да ўмоўна-датэрміновага вызвалення не імкнецца» і пасля адбывання пакарання мае намер «праводзіць злачынны лад жыцця».

Цяпер Мікалай Статкевіч будзе ўтрымлівацца у т.зв. «крытай турме» ў Магілёве. У параўнанні з калоніяй умовы ягонага ўтрымання значна пагаршаюцца.

Былы кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч быў асуджаны вясной 2011 года на шэсць год калоніі за падзеі, якія адбываліся на “Плошчы” 19 снежня 2010 года.

## ХАЦЕЛІ ПАЗБАВІЦЦА АДНАГО РАБОЧАГА, А ЗВАЛЬНЯЮЦЦА ЎСЕ

**Пасля таго, як кіраўніцтва вырашыла звольніць рабочага актывіста, ўся брыгада ягоных калегаў падала заявы на скасаванне контрактаў.**

Аляксей Паўлоўскі - сябра незалежнага прафсаюза РЭП, апошнім часам працаваў у будаўнічай арганізацыі “Прамжылбуд” муляром.

Пасля таго, як стала вядома, што кіраўніцтва не працягвае працоўны кантракт з А.Паўлоўскім, уся брыгада ў колькасці 15 чалавек, дзе працаваў Аляксей, падала заявы на скасаванне працоўных кантрактаў.

Акрамя гэта, брыгада Спірыдонава ў поўным складзе напісала заявы аб выхадзе з прадзяржаўнага прафсаюза.

4 студзеня адміністрацыя “Прамжылбуда” пісьмова ўведаміла Аляксея Паўлоўскага аб нежаданні працягваць з ім працоўны кантракт. Ад 10 лютага рабочы застаецца без працы. На дадзеным прадпрыемстве Аляксей адпрацаваў год і нараканняў па працы не меў.

“Кантракт са мной не працягнулі таму, што я актыўна займаўся адстойваннем працоўных інтарэсаў, бо з'яўляюся актыўным сябрам незалежнага прафсаюза РЭП. Мне вельмі прыемна, што сваімі паводзінамі я дасягнуў аўтарытэта сярод свайго працоўнага калектыва, які ў поўным складзе адрэагаваў на маё звальненне заявамі



*Аляксей Паўлоўскі*

на скасаванне працоўных кантрактаў. Чакаем, як адрэагуе на гэта наш дырэктар, спадар Балдэнка”, - гаворыць А.Паўлоўскі.

Прычыны такога стаўлення да Аляксея, калі рабочыя-будаўнікі ў арганізацыі на кошт золата, не называліся, аднак актывіст іх і так ведае. “Я пастаянна змагаўся з кіраўніцтвам сваёй арганізацыі за тое, каб у рабочых былі лепшыя ўмовы працы. Мы працуем ува ўмовах антысанітарыі, нашы працоўныя месцы неатэставаныя. Муляры выходзяць на пенсію ў 60 год, аднак па законе павінны гэта рабіць на пяць гадоў раней, бо ў нас шкодная праца. Аднак дамагчыся выканання працоўнага заканадаўства вельмі складана”, - гаворыць Аляксей Паўлоўскі.

Акрамя гэтага, будучы сябрам незалежнага прафсаюза РЭП, Аляксей Паўлоўскі дамогся таго, што на цяперашні будаўнічы аб'ект, дзе выконвае працу “Прамжылбуд” па будаўніцтве новага дрэваапрацоўчага завода, прыехала абласная праверка. “Праверка спраўджвае факты, якія былі выкладзены ў калектыўным звароце, і яны ўжо пацвярджаюцца. Верагодна, яна даставіла шмат праблемаў кіраўніцтву, і яно вырашыла не працягваць са мной працоўны кантракт”, - адзначае Аляксей.

Аднак прафсаюзны актывіст не разгублены і збіраецца адстойваць свае працоўныя правы надалей. “Наш незалежны прафсаюз будзе выходзіць напрамую на інвестараў (а гэта літоўская фірма), і даводзіць ім да ведама, што на аб'екце, будаўніцтва якога яны фінансуюць, парушаюцца працоўныя правы і звальняюца з працы актывісты незалежнага прафсаюза. Будзем прасіць, каб інвестар паўплываў на гэтую сітуацыю”, - кажа Аляксей Паўлоўскі.

# ШЕСТЬ ФАКТОВ ПО ДЕЛУ АЛЕСЯ БЕЛЯЦКОГО, О КОТОРЫХ НЕ РАССКАЗЫВАЕТ БТ И НЕ ПИШУТ В «СОВЕТСКОЙ БЕЛОРУССИИ»

Официальные средства массовой информации, которые начали бешеную кампанию диффамации против известного белорусского правозащитника Алеся Беляцкого, очень любят рассказывать о его имуществе. В этой связи мы, коллеги Алеся Беляцкого, решили озвучить реальные факты, которые замалчиваются или искажаются штатными пропагандистами в целях дискредитации заключенного в тюрьму правозащитника.

Сразу отметим, что все изложенные факты подтверждаются официальными документами, которые находятся в материалах уголовного дела А. Беляцкого и были озвучены в ходе судебного заседания.

**Факт первый:** Двухкомнатная квартира, в которой проживает семья Алеся Беляцкого, была куплена в 1999 году в результате продажи двух однокомнатных квартир, принадлежавших семье Беляцких (они находились на ул. Воронянского в г. Минске). Стоит отметить, что работая директором Литературного музея Максима Богдановича (с 1988 по 1998 год), Алесь Беляцкий получил одну из этих однокомнатных квартир по ордеру Министерства культуры Республики Беларусь, вторая была приобретена в начале 90-х годов - в это время Алесь активно занимался переводческой и издательской деятельностью.

**Факт второй:** Квартира на проспекте Независимости 78А-48, в которой располагается офис Правозащитного центра «Весна», была куплена в 2000 году. По согласованному решению Совета Правозащитного центра «Весна» квартира была оформлена на частное лицо, в ней был официально зарегистрирован Алесь Беляцкий. Благодаря тому, что офис являлся частной собственностью, Правозащитный центр «Весна» смог проработать в нем 11 последних лет. В этой квартире регулярно проводятся пресс-конференции и презентации, она хорошо известна практически всем общественно-политическим активистам страны и людям, которые сталкиваются с нарушением их прав, ее посещают иностранные дипломаты.

Знают о существовании офиса и белорусские спецслужбы. В официальных санкциях КГБ на проведение обысков в данной квартире в декабре 2010 и январе 2011 гг. было указано, что следственные мероприятия проходили в офисе «незарегистрированного ПЦ «Весна».

В государственных СМИ специально называют теперешнюю рыночную стоимость недвижимости, которая значительно выросла за последние годы. Вместе с тем, на момент приобретения стоимость этой квартиры составляла около 23 000 долларов США.

**Факт третий:** «Шикарный коттедж» Беляцких в местечке Раков представляет собой ни что иное, как отремонтированный старый деревянный дом (поэтому его неохотно показывают по БТ). Дача была куплена семьей в 2005 г., причем земельный участок, на котором стоит дом, не был предметом купли-продажи. Участок принадлежал предыдущим хозяевам на праве пожизненного владения (не был частной собственностью) и был позже приватизирован Беляцким самостоятельно. Как известно, приватизация земельных участков в Беларуси стоит совсем небольшие деньги: в данном случае она обошлась Беляцким в сумму размером в 161'330 белорусских рублей.

Также обращаем внимание на то, что период получения средств А. Беляцким, который рассматривался в суде по уголовному делу правозащитника - 2007 -2011 гг., а приобретение имущества имело место в 1999, 2000 и 2005 годах соответственно.

**Факт четвертый:** «Шикарный автомобиль», который приобрел А. Беляцкий в 2010 году - это «Ситроен С-5» 2003 г. выпуска, который был ввезен в Беларусь из Литвы в поврежденном состоянии. По официальному договору купли-продажи он стоил 2 300 Евро, а вместе с таможенными платежами - 3000 Евро.

Алесь Беляцкий не имеет водительских прав, машиной пользовался его сын Адам - один из активных участников акций «стоп-бензин» в Минске. В июле 2011 года он один из первых остановил свою машину на проспекте, чем инициировал перекрытие движения на несколько часов. За участие в августовской акции Адам был арестован, а машина была погружена на эвакуатор и вывезена на штрафную стоянку, где находится и сейчас.

**Факт пятый:** За период с 1994 г. по 2008 г. инспекцией по налогам и сборам Первомайского р-на г. Минска проводилась проверка доходов Алеся Беляцкого и членов его семьи. Превышение доходов А. Беляцкого над его расходами по итогам данной проверки составила сумма, эквивалентная 30 долларам США. Превышения расходов над доходами у других членов семьи не было установлено. Стоит напомнить, что именно на этот период времени и приходятся сделки с покупкой имущества.

**Факт шестой:** Денежные средства НЕ ОКАЗАЛИСЬ на счетах, открытых А. Беляцким в Литве и Польше, а БЫЛИ ПЕРЕЧИСЛЕНЫ туда рядом фондов согласно двусторонним договоренностям между данным фондами и Правозащитным центром «Весна». Полученные средства расходовались организацией на заявленные цели: правозащитную деятельность, в том числе - оказание помощи жертвам нарушения прав человека. Вся отчетность по расходования полученных средств была представлена Правозащитным центром «Весна» фондам, которые не высказали ни одной претензии к их использованию. Таким образом, денежные средства со счетов, открытых на имя А. Беляцкого, не являются его личным доходом и, соответственно, не подлежат налогообложению.

*www.spring96.org*

## *ДАВЕДКА*

*Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі 24 лістапада быў прыгавораны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Ён прызнаны вінаватым ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры на падставе ч.2 арт.243 Крымінальнага кодэкса (утойванне даходаў у асабліва буйным памеры).*

*Падставай для крымінальнага пераследу А.Бяляцкага стала інфармацыя аб яго замежных банкаўскіх рахунках, перададзеная ў Мінск чыноўнікамі Літвы і Польшчы ў рамках двухбаковых пагадненняў аб прававой дапамозе. Потым польскія і літоўскія ўлады выказалі прабачэнні Бяляцкаму і яго сям'і.*

*Міжнародная дэмакратычная грамадскасць, кіраўніцтва Еўрасаюза, ЗША і шэрагу іншых краін лічаць вынесены праваабаронцу прысуд палітычна матываваным і патрабуюць ад улад Беларусі безумоўнага вызвалення Бяляцкага.*

*Зараз асуджаны праваабаронца ўтрымліваецца ў следчым ізалятары г.Жодзіна.*



*Алесь Бяляцкі. Фота Юліі Дарашкевіч*

**Старонка Магілёўскага аддзялення Праваабарончага цэнтру «Вясна» ў інтэрнэце:**

**www.mahilyowspring.org**

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.